# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 35 (1174) ГОД XXIII БЕЛАСТОК, 27 ЖНІЎНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.





**РОДНАЕ СЛОВА**

*Суджана, стаўлена пад перакладзіны,*
*Сечана, палена, а не аддадзена,*
*Непарастрачвана і не раскрадзена,*
*Рупна ў падмуркі на золку пакладзена*
*Роднае слова.*

*Хоць яго з поля, як зелле, высмыквалі,*
*Не забывалася ў песні музыкавай,*
*Не знебывалася ў долі нясытае —*
*Нам навечна ў насевак усыпана*
*Роднае слова.*

**Максім Лужанін**



*Па роднай зямлі. У даліне Нарвы між Дзяніскамі і Войшкамі.* *Фота В. Рудчыка.*

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# СВЯТАЯ ВАДА

Палашка прынесла абед у поле. Мы спынілі машыны і ўсе разам прыселі пад старой грушай, якая расце на нашым полі ўжо нейкіх сто, а можа і болей гадоў.

— Ну і гарачыня! — ляніва адазваўся трактарыст Язэп, дарваўшыся да гладункі з вадой. Піў ён прагна, вялікімі глыткамі, а вада цякла ў яго па барадзе і па валахатых грудзях.

— Вось прыемна! — апавесціў ён нам усім, расціраючы струменні халоднай вады па загарэлым целе.

— А ты лепш бы скочыў у сажалку! — параіў яму яго памочнік Міхась.

— Я ж не эскаэраўская свіння, каб хацеў у балоце купацца! — адрэзаў Язэп, бо ўсе мы ведалі, што з нашай, калісьці бяздоннай сажалкі, пасля нядаўняй меліярацыі асталася ледзь забалочаная лужына. Разумелі мы таксама, чаму Язэп чапае эскаэраўскіх свіней. Пра іх незавідны лёс ужо другі тыдзень гаварыла ўся вёска.

— Так... — уздыхнуў я, — без вады няма жыцця.

— То ж нават сам Хрыстос, — заявіў Язэп, — з чаго ж зрабіў бы віно ў Кане Галілейскай, каб не было вады?

— Ах ты, бязбожнік! — ускочыла на яго мая Палашка. — Для такіх, як ты, чарцей валасатых, то найважнейшая, найлепшая такая вада, — тут яна патрэсла бутэлькай манапалькі, — якая мае найменш 40 градусаў моцы!

— Я ж вас не прасіў, каб вы мне фундавалі! — спрабаваў адгрызціся трактарыст Язэп.

— Маўчы ты лепш і слухай старэйшых! — заявіла Палашка і тут яна спаслалася на прыклад, які ўсе мы добра ведалі, і ён выклікаў у мяне хвалю ўспамінаў. Гаварыла мая Палашка пра Спаса, пра Грабарку, пра святую ваду з гэтай вёскі.

У некалькіх кіламетрах на ўсход за Сямяцічамі, за чыгуначнай дарогай, за вёскай Грабарка знаходзіцца невысокая гара, хутчэй звычайны ўзгорак. Але гэта дзіўная, святая гара. Так усе ў нас мяркуюць, усе мы ў гэтым перакананы.

Сярод адвечных соснаў на вяршыні гэтай гары стаіць старэнькая драўляная царкоўка, а побач — жаночы праваслаўны манастыр.

І гэтую царкоўку, і гэты манастыр з усіх бакоў, быццам своеасаблівым балдахінам, прыкрываюць высокія, старыя, паднебныя сосны. Растуць яны дзіўна, зусім інакш, чымсьці бывае звычайна. Замест адкланяцца ад вяршыні гэтага ўзгорка, яны з усіх бакоў нахіляюцца да сярэдзіны, утвараючы аграмадны сасновы шацёр, пад якім знаходзіцца гэтая святыня.

Расказваюць, што даўным-даўно, недзе ў палавіне яшчэ XVIII стагоддзя, шалела тут страшэнная зараза. Людзі ўцякалі ад яе, куды толькі маглі. Частка з іх схавалася на гэтай гары, за рэчкаю, якая плыве побач. І яны выратаваліся, уцалелі.

— Вада, святая вада іх выратавала! — заявіла мая Палашка.

Сапраўды, як толькі магу сягнуць я памяццю ў мінулае, кожны год напярэдадні Спаса, значыць 18 жніўня, жыхары нашай вёскі адпраўляліся за свянцонай вадой у Грабарку. Ішлі мы пехатою звыш трыццаці кіламетраў. Далучаліся да паломнікаў з іншых вёсак і так шматлюдным натоўпам дабіраліся да гэтай гары, да невялічкай рачулкі, якая плыве сабе далінай, да гэтай святой крыніцы, з якой кожны з нас абавязкова браў сабе бутэльку вады, каб занесці яе дадому.

— Глянь, Максіме! — вырвала мяне з краіны ўспамінаў мая Палашка. — Здаецца, міліцыянер нейкі да нас набліжаецца.

Сапраўды, быў гэта камендант тутэйшага пастарунка.

— Вы тут свой чалавек, — звярнуўся ён да мяне, адклікаўшы на размову. — Ці не маглі б нам дапамагчы знайсці таго сабатажніка, які папсаваў электратрансфарматар...

Ага, здагадаўся я, пра гэта... Тыдзень часу сядзелі мы без святла. А найгорш пацярпела свінагадоўчая ферма тутэйшага эскаэру. Там тучарні без падсцілкі, іх кожны дзень трэба змываць вадой. А вадакачка не працавала. Штук сто кормнікаў давялося закапаць у яму. Падушыліся яны ва ўласнай нечысці. І таму наш Язэп спасылаўся на гэтых бедных эскаэраўскіх свіней.

Вось якая важная вада! Святая ці грэшная, але важная, неабходная, важная і з нашай рэчкі, хаця яна нават сваёй назвы не мае.

А калі пайсці далей у краіну, дзе велізарныя заводы і фабрыкі, якія без вады пераўтварыліся б у кучу нічога не вартага жалеза, калі гэта ўсё разважыць, тады і наглядна зразумеем мы, чаму наш урад цяпер бярэцца за гідрабудаўніцтва, за вялікую праграму па рэгуляванню Віслы...

Бо звычайная вада набірае цяпер вартасці свянцонай з-пад святой гары ў Грабарцы, без якой мы жыць не маглі б.

**Максім Нурэцкі**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БЕЛЯВІЧЫ

Цяпер гэта каля трох дзесяткаў хутароў, што рассыпаны ў двух-трох кіламетрах на ўсход ад мястэчка Гарадок. Паміж лесам **Дубова** на паўночным усходзе і лугамі ва ўрочышчы **Стаі** над рэчкаю Супраслю на паўднёвым захадзе, дбайна тупаюць каля сваіх гаспадарак старыя сялянскія роды: **Астравецкія, Вільдовічы, Госцікі, Дарашкевічы, Кахановічы, Лапаты, Лісоўскія, Марцінчыкі, Навойчыкі, Тарасевічы, Трахімчыкі, Храноўскія. І,** магчыма, не здагадваюцца, што чалавечую дзейнасць у гэтых ваколіцах можна мерыць шматлікімі стагоддзямі.

Ужо недзе каля X стагоддзя тут было даволі рухліва, асабліва калі ў 983 г. князь кіеўскі Уладзімір Вялікі, а ў 1038 г. яго сын Яраслаў Мудры са сваімі дружынамі хадзілі супраць яцвягаў „і перамаглі і ўзялі зямлю іх“. Відаць, у тыя часы для аховы ад набегаў гэтых ваяўнічых плямёнаў паўстала доўгая сцяна крэпасцяў на гэтым паўночна-заходнім рубяжы Кіеўскай дзяржавы, ад узбярэжжа ракі Буга і да берагоў Нёмана: Драгічын над Бугам, Бранск над Бронкай, Бельск над Белай, Нарва і Сураж над Нарвай, Свіслач над Свіслаччу, Гарадок над Супраслю, Мсцібава над Нятупай, Ваўкавыск над Россю, Гродна над Нёманам і шэраг іншых, ад якіх па сённяшні дзень на гэтым абшары высяцца безыменныя гарадзішчы. Вакол жа іх разгарнулася актыўная гаспадарчая дзейнасць, на аснове якой потым, у эпоху феадальнага раздраблення Кіеўскай Русі, выраслі тут удзельныя Гарадзенскае, Драгічынскае і Свіслацкае княствы. Гарадок ужо ў той час адыгрываў важную ролю, бо стаяў якраз на старажытным шляху, які злучаў Гарадзенскае княства з

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-78

*Спяваюць беластоцкія „Каласкі“, якія занялі II месца сярод вакальных калектываў у катэгорыі сучаснай песні.* *Фота М. Шаховіча.*




### ВЫНІКІ КАТАСТРОФЫ

Прэзідэнт Францыі В. Жыскар д'Эстэн наведаў паўночнае ўзбярэжжа паўвострава Брэтань, якое цяжка пацярпела ў выніку катастрофы з амерыканскім супертанкерам „Амока кадыс" вясной гэтага года. З яго рэзервуараў у мора вылілася 230 тысяч тон сырой нафты, была нанесена велізарная шкода гэтаму раёну Францыі.

На першы погляд, праз чатыры з палавінай месяцы пасля катастрофы аб ёй нагадваюць толькі рэшткі гіганцкага корпуса танкера за некалькі соцень метраў ад берага. Дзякуючы самаадданым намаганням тысяч салдат і добраахвотнікаў удалося ачысціць большую частку 400-кіламетровай забруджанай зоны. Аднак жыхары паўвострава, асноўнай крыніцай даходаў якіх традыцыйна былі рыбная лоўля і турызм, востра адчуваюць на сабе вынікі катастрофы. У гэтым годзе колькасць французаў, якія прыехалі правесці водпуск на славутых брэтонскіх пляжах, скарацілася ў параўнанні з мінулым годам больш чым у два разы. Паводле слоў рыбакоў, іх уловы зменшыліся ў дзесяць разоў. „Страты, нанесеныя працоўным насельніцтвам гэтага раёна, з цяжкасцю паддаюцца ацэнцы", — піша газета „Юманітэ".

Гібель „Амока кадыс" стала беспрэцэдэнтнай экалагічнай катастрофай — да такога вываду прыйшлі амерыканскія эксперты, якія наведалі ўзбярэжжа Брэтані. У падрыхтаваным імі дакладзе ўказваецца, што нафта выклікала гібель 20 тысяч птушак, некаторыя віды пярнатых аказаліся пад пагрозай поўнага знікнення. Адзначана масавая пагібель рыбы і малюскаў. У дакладзе прызнаецца, што цяпер усё яшчэ немагчыма прадказаць маштабы яе вынікаў праз некалькі гадоў.

Пасля катастрофы з „Амока кадыс" французскі ўрад распрацаваў шэраг мер, імкнучыся ўзмацніць кантроль за праходзячымі ўздоўж узбярэжжа Францыі танкерамі і палепшыць арганізацыю аказання дапамогі церпячым бедства суднам. Дэмакратычны друк, аднак, падкрэслівае, што гэтыя меры наўрад ці прынясуць вялікую карысць, калі не будзе ліквідавана сапраўдная прычына такіх катастроф: бескантрольная дзейнасць нафтавых манаполій, якія ў пагоні за максімальнымі прыбыткамі грэбуюць асноўнымі правіламі бяспекі суднаходства.

**В. Ш.**

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**230 гадоў назад**

30 VIII 1748 нар. Жак Давід, французскі жывапісец, заснавальнік рэвалюцыйнага класіцызму ў французскім мастацтве.

**125 гадоў назад**

1 IX 1853 нар. Міхал Федароўскі, польскі і беларускі фальклярыст і этнограф.

**35 гадоў назад**

27 VIII 1943 у сялецкім лагеры ў СССР адбылася першая прамоцыя афіцэраў Войска Польскага.

2 IX 1943 загінуў Янак Красіцкі, адзін з заснавальнікаў ЗВМ.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1787; 6.400 egz. N-4





*ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ. Помнік савецкім воінам, што загінулі пры вызваленні горада Гродна.*

*Фота У. Казлова і Э. Трыгубовіча*

# ТАЯМНІЦЫ СТАРАЖЫТНАГА ЗАМКА

У рускіх летапісах, скандынаўскіх сагах, паданнях старажытных арабскіх пісьменнікаў упамінаецца Навагрудак — багаты беларускі гандлёвы і рамесны горад. І цяпер сведчаннем далёкага мінулага з'яўляюцца руіны шасці вежаў сярэдневяковага замка, пабудаваных у чатырнаццатым стагоддзі.

Руіны замка даўно прыцягвалі ўвагу вучоных. Даследаванні комплекснай экспедыцыі беларускіх і ленінградскіх археолагаў прынеслі цікавыя вынікі. Ленінградскі археолаг кандыдат гістарычных навук Ф. Д. Гурэвіч адкрыла гаспадарчыя пабудовы — клеці XII-XIII стагоддзяў са слядамі пажараў. У іх былі знойдзены рэшткі абпаленага збожжа, гліняныя гаршкі для віна, гіры, каробкі і разваленыя бочкі. У дзвюх з іх, як сведчаць знаходкі, напэўна, захоўваліся запасы мяса і сушаныя дзікія грушы і слівы. Цікавая дэталь — са сцяны адной з клецяў удалося выцягнуць усаджаны ў дрэва наканечнік стралы. Магчыма, яна была пушчана кімсьці з ворагаў у час жорсткага бою.

Нечаканае адкрыццё было зроблена пад сценамі замка. Малады беларускі археолаг М. А. Ткачоў выявіў невядомыя да гэтага рэшткі нейкіх больш старажытных драўляных абарончых збудаванняў. Як мяркуюць вучоныя, яны з'яўляюцца папярэднікамі каменнага замка. Выяўленыя часткі рубленай гародні — драўлянага зруба, які ўжываўся для ўмацавання валаў, а пад ім — рэшткі драўлянага двайнога частакола. Усё гэта, напэўна, адносіцца да XII стагоддзя — часу скандынаўскіх саг. Яшчэ ніжэй сустрэты фрагменты двух прымітыўных умацаванняў з дубу, якія папярэдне датуюцца X-XI стагоддзямі.

Знаходка невядомых драўляных умацаванняў пад замкам дае падставу меркаваць, што ў XII стагоддзі Навагрудак быў моцна ахаваны ад ворага. Двайны частакол на раскапаным участку мае шырыню ў два — два з палавінай метры і даўжыню звыш двух з палавінай метраў. Усе яго рэшткі моцна абпалены. Гэта сляды аднаго з пажараў, прывёўшых да знішчэння ўмацавання.

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### МІЛЬЁН ГАДЗІННІКАЎ У ГОД

Такая магчымасць новай універсальнай тэхналагічнай лініі вырабу наручных электронных гадзіннікаў, укараненне якой ідзе ў Мінскім вытворчым аб'яднанні „Інтэграл".

Новаўвядзенне дазваляе ў 2,5-3 разы паменшыць працаёмкасць выпуску прыбораў дакладнага часу, значна знізіць долю ручной працы.

Вымяральная сістэма тэхналагічнай лініі, якая дасягне праектнай магутнасці да канца трэцяга года дзесятай пяцігодкі, не мае аналагаў як у савецкай краіне, так і за рубяжом.

### НОВЫ ТЭХНІКУМ

Савет Міністраў БССР прыняў прапанову Міністэрства сельскай гаспадаркі рэспублікі аб арганізацыі з першага верасня сёлетняга года Беларускага сельскагаспадарчага тэхнікума па падрыхтоўцы кіруючых кадраў калгасаў і саўгасаў. Ён адкрываецца ў вёсцы Сенніца Мінскага раёна на базе абласной школы павышэння кваліфікацыі сельскагаспадарчых кадраў.

### НОВЫЯ ПАСЛУГІ АШЧАДНЫХ КАС

Цяпер у Брэсцкай вобласці цяжка знайсці сям'ю, якая не карысталася б паслугамі ашчаднай касы. Людзі прыходзяць, каб унесці або атрымаць уклад, заплаціць за камунальныя паслугі. Цяпер у вобласці працуюць 502 ашчадныя касы. У іх захоўваюць свае зберажэнні 656 тысяч чалавек, на рахунках якіх больш як 700 мільёнаў рублёў.

За апошні час атрымала развіццё такая функцыя ашчадных кас, як выплата заработнай платы рабочым і служачым прадпрыемстваў і арганізацый і грашовых заработкаў калгаснікам. Гэтым відам паслуг карыстаюцца каля 60 тысяч чалавек.

### ІНСТЫТУТЫ ПЕРАСЯЛІЛІСЯ

Акадэмічныя інстытуты гісторыі, філасофіі і права, эканомікі, літаратуры імя Я. Купалы, мовазнаўства імя Я. Коласа, мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору перасяліліся ў два новыя высотныя корпусы.

Тут ёсць актавая зала на 400 месц, манціруецца экспазіцыя музея мастацтва, этнаграфіі і археалогіі. Акадэмія навук БССР пашыраецца з кожным годам. Не так даўно атрымалі будынкі эксперыментальная вытворчасць Інстытута ядзернай энергетыкі і вылічальны цэнтр Інстытута матэматыкі.




**Горад дажынак ● З візітам у Калодне ● Новы цыкл: наша дзесяцігодка ● Том адкрыццяў ● Літстаронка — пейзажы Надзеі Артымовіч ● Гімны Яна Кішкеля з Ліповага Мосту ● Дзядзька Квас на сваёй палосцы ● Калі прысніцца скрыпка ● Весткі з Крывяціч, Галадоў, Грабаўца, Бельска, Крынак, Чаромхі, Нараўкі ● Песня „Смуглянка".**




**Sobota 26 VIII** — Studio 8. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik.

**Niedziela 27 VIII** — 7.50 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Studio sport. 8.55 Program dnia. 9.00 Kwiaty przyjaźni. 10.15 Antena. 10.40 Tropem rekinów — dok. film przyr. 11.30 Radar. 11.45 Dziennik. 12.00 Rozmowy rolnicze. 12.30 Opowieści reporterów. 13.00 Tylko w niedzielę. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik.

**Poniedziałek 28 VIII** — 13.55 Program dnia. 14.00 Wakac. Kino Młodych. Nie uciekniesz przed dziewczyną — radz. film fab. 15.30 NURT: filozofia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.30 Klub kibica. 17.55 Melodie. 18.20 Doktor Ewa — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji. A. Wesker: Cztery pory roku. 21.45 Camerata. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 29 VIII** — 8.10 Dla kl. VIII. Historia. 9.00 Dla kl. V—VI. Język polski. 10.00 Dla kl. I—III. Czerwone, żółte, zielone. 11.00 Panie na Mogadorze — odc. XI serialu franc. 14.25 Program dnia. 14.30 Wakac. Kino Młodych. Przygody Robinsona Kruzoe — radz. film fab. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio TV Młodych. 17.10 Ludzie uparci. 17.55 Interstudio. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Życie i śmierć Penelopy — VI odc. serialu prod. ang. 21.25 Świadkowie. 21.45 Studio sport. 22.30 X Y Z cz. I. 23.00 Dziennik. 23.15 X Y Z.

**Środa 30 VIII** — 12.00 Dla kl. VII—VIII. Wychowanie plastyczne. 13.55 Program dnia. 14.00 Wakac. Kino Młodych. Arcymistrz — radz. dramat obyczajowy. 15.30 NURT — nauczanie początkowe. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Pan Półka i Spółka — program dla dzieci. 17.00 Wielcy znani i nieznani: Chciałem by Warszawa była wielka. 17.40 Los. Małego Lotka. 17.55 Studio sport: Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Kot — francuski dramat psych. 22.00 Studio sport: Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce. 22.50 Dziennik.

**Czwartek 31 VIII** — 8.10 Dla kl. VIII Zoologia. 9.00 Dla kl. VI. Historia. 10.00 Dla kl. VII. Język polski. 14.30 Program dnia. 14.35 Wakac. Kino Młodych. Pogoń za Adamem — pol. dramat obycz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Czwartek TDC. 17.55 Poligonowe lato. 18.20 Sonda — magazyn. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Komisarz Maigret — serial franc. 22.00 Pegaz. 22.45 Studio sport. 23.15 Dziennik.

**Piątek 1 IX** — 12.45 RTSS. Biologia (sem. I). 13.25 RTSS. Wskazówki metodyczne (sem. I). 14.45 Redakcja szkolna zapowiada. 14.55 Program dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — psychologia. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Piątek z Pankracym — program dla dzieci. 17.00 Klub Dobrej Roboty. 17.25 Na morzu — serial TV NRD. 18.30 Magazyn motoryz. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Moja wojna, moja miłość — polski film fab. 21.55 Studio sport: Mistrzostwa Europy w lekkiej atletyce. 22.45 Dziennik. 23.00 Polska pieśń żołnierska.




**Piątek 25 VIII** — 7.55 Koncert. 8.20 Film fab. 9.55 Film dok. 13.30 Filmy dok. 15.20 Koncert. 17.15 Sport. Mistrzostwa świata w sportach wodnych. 18.30 Film fab. 20.30 Transmisja Festiwalu z Sopotu. 21.30 Mistrzostwa świata w siatkówce. ZSSR—Bułgaria.

**Sobota 26 VIII** — 7.55 Film muz. 9.50 Film fab. 14.00 Filmy anim. 16.00 Piłka nożna (CSKA—„Dynamo" Kijów). 19.00 Piłka nożna („Szachtior"—„Dynamo" Tbilisi). 20.30 Transmisja festiwalu z Sopotu. 21.30 Mistrzostwa świata w sportach wodnych.

**Niedziela 27 VIII** — 7.55 Koncert. 10.00 Filmy dla dzieci. 10.40 Mistrzostwa świata w sportach wodnych. 12.30 Spektakl. 16.10 Koncert. 18.30 Film fab. 20.30 Transmisja Festiwalu z Sopotu. 21.40 Sport.




Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Szał — ang. 29—30 VIII. Tajemniczy upiór — węg. 31 VIII—1 IX.

**Bielsk Podlaski** Taksówkarz — USA 28 VIII. Siedem nocy w Japonii — ang. 29—30 VIII. Otalia z Bahii — brazyl. 31 VIII—1 IX.

**Czeremcha** Halo Taxi — NRD 30—31 VIII.

**Czyże** Śmierć prezydenta — pol. Najdłuższa droga — jug. 30 VIII—3 IX.

**Gródek** Szarada — pol. 2—3 IX.

**Hajnówka** Utracona cześć Katarzyny — RFN 28—29 VIII. Morderstwo w Orient Ekspressie — ang. 30 VIII—1 IX.

**Michałowo** Pocałunki z Hongkongu — fr. 29—30 VIII. Szerokiej drogi kochanie — pol. 31 VIII—1 IX. Rozwód — NRD 2—3 IX.

**Mielnik** Samotnik — fr. 30 VIII. Rebus — pol. 2—3 IX.

**Milejczyce** Rok święty — fr. 30 VIII—1 IX.

**Narew** Dzielnica willowa — buł. Każdy umiera w samotności — RFN 30 VIII—3 IX.

**Narewka** Akcja pod arsenałem — pol. Zaginęła dziewczyna — czes. 30 VIII—3 IX.

**Nurzec** Linia — pol. 29—30 VIII. Powrót straconych — jug. 31 VIII—1 IX.

**Orla** Niepotrzebny — buł. Ostatni beztroski miesiąc — czes. 30 VIII—3 IX.

**Rajsk** Doktor Mladen — jug. Koncert na patelnię i orkiestrę — NRD 30 VIII—3 IX.

# З думкай пра аматарскую сцэну

Тры зборнікі сцэнічных твораў, паасобныя брашурныя выданні некаторых п'ес, „Беларускія календары", — вось ніва, падрыхтаваная ГП БГКТ для развіцця тэатральнай самадзейнасці. Сярод гэтай колькасці, якая ўжо даволі аб'ёмістая, займаюць пэўнае месца і п'есы нашых мясцовых аўтараў. У свой час вялікай папулярнасцю карысталіся на сцэнах аматарскага тэатра п'есы Алеся Барскага, Юркі Геніюша, Сакрата Яновіча. Але п'еса жыве поўным жыццём, пакуль яна на сцэне, пакуль да яе вяртаюцца, бо з гэтай думкай пісаў яе аўтар. З цягам часу п'еса аджывае. Змяняецца жыццё і тое, што было трапнае гадоў дзесяць таму назад, сёння можа быць наіўна смешным. Толькі дасканалая ігра і добра прадуманае рэжысёрства змогуць захаваць яе вартасць. Сцэна вясковага аматарскага тэатра патрабуе або трапна падгледжанага штодзённага жыцця, якога чалавек, будучы ў яго віры, зусім не заўважае, а можа нават і не звяртае ўвагі і толькі, убачыўшы на сцэне, скажа: „О, гэта зусім так, як у нас!"

І часткова дапамаглі нашым самадзейнікам п'есы нашых белавежцаў. Але яшчэ надалей драмгурткі вымушаны шукаць матэрыялаў для сваёй дзейнасці ў іншых аўтараў, гэта не значыць, што дрэнна, але не заўсёды п'есы чужых аўтараў адлюстроўваюць наш быт. І з увагі на гэта не заўсёды будуць адпаведна ўспрынятыя. Хіба што будуць гэта камедыі тыпу „Мікітаў лапаць" ці „Суд".

І вось паявілася нешта новае, сваё. Нядаўна Ваяводская ўправа выдала новую камедыю Сакрата Яновіча „Не пашанцавала". Камедыя ў трох адслонах, з пяцццю дзейнічаючымі асобамі. Дасканала падыходзіць для сцэны аматарскага тэатра, дзе часта вынікаюць цяжкасці з увагі на колькасць выступаючых асоб. Якая гэта п'еса, не мне ацэньваць. Найлепшым крытыкам з'яўляюцца гледачы, бо для іх жа яна і напісана. Я са свайго боку заахвочваю драмгурткі, каб зацікавіліся ёю. (мш)

## Палоска дзядзькі кваса

Твор паэтэсы Надзеі Артымовіч.

„Сонца яшчэ нясмела
Песціла ледзь відочную зялёнасць
Асцярожна, без дыхання
Прыглядалася нам".

Выходзіць, асцярожнасць уласціва не толькі ўсяму жывому на зямлі, але і свяцілам нябесным. А што нат устрымала дыханне, гэта абсурд. Ды чаго ў паэзіі не бывае: Яша Бурш трымаў калісь сонца ў руках, бы футбольны мяч — і хоць бы куды.

„Мы маўчалі...
Нашы вусны заміралі
Ад нявышаптаных слоў..."

Мондра зрабілі. Крычучы маглі б спужаць сонца.

„Цішыня звінела як рэха".

Можа звінела таму, што слоўна не дыхала.

„Нашай хвіліны-маланкі"

# МЫ ТАК БЛІЗКА СЯБЕ

Наглядзеліся б, калі б жыццё пражылі.

„Мы баяліся люстар сваіх вачэй
Мы баяліся сваіх галасоў..."

Не без поваду, знаю дзела.

„Сцяжынка невядомых
Расла
То паўзла
Як п'яны ў начным тумане
І ўрэшце
Заблудзіла
У пушчы звугленых
Дрэў
Дрэў без карэнняў..."

Вось тут з гэтай сцяжынкай і загвоздка. І расце і паўзе, як п'яны ў начным тумане. Чаму не п'яная? Сцяжынка, здаецца, жаночага роду. А п'яны ў тумане і сярод яснага дня. А мо сцяжынка зусім не заблудзіла. Можа яна паўзла яшчэ і тады, як пушча расла. Прызнаюся, не магу палапацца ў гэтых дзевяці радках. Гэтым падмацоўваю вывад В. Шведа, што вясковае асяроддзе не разумее Я. Бурша і яго наследавальнікаў.

„Схавай свае словы
Што раняць
Схавай свае вочы
Што не ўсё бачаць
Схавай свой смех
Што
Не дае мне спакою
Да сёння..."

Не так даўно вы баяліся люстраў сваіх вачэй, сваіх галасоў. Але, бач, як бывае, загаварыў Гаўрыл балюча, спазірай калюча. Такту ў яго мала, калі вясёлка напала, бы ў мужычыла з вёхі.

„І боль
У тваіх вачах
І бура
У тваіх мыслях
І нават кветкі ад цябе
Гавораць — час расстацца"

Падзенне ціску ў тэмпераменце, каханне, мяжуючае з вар'яцтвам. Як боль у вачах убачыла, то ўсё міламу прабачыла. Кветкі, вядома, былі жоўтага колеру. Ой, што то будзе, што то будзе!

„Не думай
Не скажу
Шкада..."

Што „не думаць", што „не сказаць", чаго „шкада"? Шкада чытачоў.

„Толькі чаму
Так цяжка?"

Як сама не ведаеш, то хто ж можа згадаць?

„Так проста
Стаіць цішыня"

З цішынёй адны фокусы. То яна як рэха звініць, то як слуп проста стаіць.

„Так проста
Дагарае чорнае лісце"

Прасцей простшага. Кожнае лісцё (зялёнае, чырвонае, жоўтае), дагараючы, звугляецца, чарнее. Але прычым тут яно? Не сказана ды й годзе.

„У люстры вады
Я бачу твае вочы-васількі
Шоўк твайго валосся
Вішнёвыя губы
Снежныя зубы".

Упершыню з чымсьці такім спатыкаюся. Даводзілася і мне, п'ючы ваду з крыніцы, бачыць адбітак свайго носа, губ, вачэй, але каб вада адбівала так выразна колеры, як беласнежны ці вішнёвы, паверыць цяжка.

„Але не бачу твайго сэрца"

Во, чаго захацела. Што ж, у наш час і гэта магчыма, завалачы яго на прасвятленне і дзела ў шляпкі.

„Магу табе падарыць
Кропельку расы"

Ой, што за ашчаднасць!

„Магу замяніць тваю восень
На зялёную ап'янеўшую вясну"

То ўжо чарадзейнасць. Не кожнай гэта ўдаецца.

„Але не магу вышаптаць

(Працяг на стар. 4)

НАШЫ САМАДЗЕЙНІКІ

## БЕЛЬСКІ БЕЛЛІЦЭЙ

Пакуль што цяжка гаварыць пра нейкую сталасць. Стымуламі нараджэння пры Бельскім белліцэі драматычных груп і ажыццяўлення іх дзейнасці былі наладжваемыя ГП БГКТ агляды, а часам нейкія ўрачыстасці. Адчуваецца тут выразны недахоп традыцый у гэтай дзейнасці. Тым больш, што пасля чатырохгадовага побыту вучні пакідаюць школьныя сцены, а разам з імі ўсё тое, што запачаткавалі супольна са сваімі настаўнікамі. Ці іншыя, што ідуць за імі, падымуць іх работу, узбагачваючы і развіваючы пачатае, гэта залежыць ад настаўнікаў, ад дырэкцыі. Не падкінуць у вогнішча дроў — і агонь пагасне, нягледзячы на тое, што яшчэ зусім нядаўна так моцна гарэў. Але таксама хопіць умела падзьмуць на іскарку і можа яна моцна разгарэцца. Самае істотнае — гэта захаваць цяг. Пакуль адыдуць старэйшыя, павінны падрыхтоўвацца і ўводзіцца ў вір справы тыя, што ідуць за імі, тыя, якія будуць не толькі прадаўжаць, але і ўзбагачваць дасягнутае. Найважнейшае, каб пераўтварылася гэта ў традыцыю, каб увайшло ў пульсаванне школьнага жыцця. А ўмовы для гэтага ёсць. Вучні ж дасканала ведаюць беларускую мову, штодзень сутыкаюцца з беларускай літаратурай, ды і ёсць іх тут многа.

Вучні — людзі маладыя. Ужо сама назва „агульнаадукацыйны ліцэй" гаворыць аб тым, што прыйшлі сюды людзі з рознымі здольнасцямі і, хто ведае, ці ў сэрцах часткі з іх не дрэмле акцёрскі талент, які толькі і чакае, нібы тая іскарка, каб нехта жыццядайна падзьмуў.

Некалькі разоў прабавалі засноўваць пры Бельскім агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання драмгурток, але за кожным разам канчаў ён сваю дзейнасць з першай пастаноўкай, нягледзячы на тое, што была яна зусім уданая. Не значыць гэта, што драматычная дзейнасць белліцэя не існуе. Існаваць яна існуе, але толькі перыядычна.

Першай пастаноўкай, якая пакінула выразны след, быў „Яраслаўскі вечар". Напамінала гэта крыху мантаж, крыху п'есу пра жыццё вядомага паэта Максіма Багдановіча. Было ўсё гэта гады тры таму назад. Потым ставілі „Гарадскіх гасцей" Алеся Барскага. Нейкі час драматычнай групай кіравала настаўніца Зінаіда Красоўская, якая паклала ў гэта ўсе свае старанні і сілы. З вялікай дапамогай прыходзілі Валя Андраюк — працаўніца Бельскага дома культуры, якая мае рэжысёрскую падрыхтоўку, і Янка Крупа, што апякуецца дзейнічаючай пры ліцэі танцавальнай групай. Супольна падбіралі п'есы, раздзялялі ролі, падбіралі асоб. Няма тут нейкай пастаяннай групы, да кожнай п'есы людзей трэба выбіраць.

У мінулым школьным годзе драматычнай дзейнасцю ліцэя пачала апекавацца настаўніца Вера Рышчук. Як вядома, Галоўнае праўленне БГКТ штогод праводзіць агляды драмгурткоў. На сёлетні агляд самадзейнікі Бельскага белліцэя падрыхтавалі „Не верце цішыні" Івана Шамякіна. Дасканалая ігра — вынік добрай падрыхтоўкі і вялікага самаахвярнага ўкладу з боку настаўніцы і выканаўцаў надоўга пасялілася ў памяці гледачоў. Поўнасцю заваявалі яны іх увагу. Хвілінамі заціралася мяжа паміж аматарамі і прафесіяналамі, хвілінамі чалавек забываўся, што ён у зале, што ўсё адбываецца на сцэне. Усёроўна як бы сам быў удзельнікам адбываючагася, так патрапілі заваяваць душу і думкі гледача.

Перад імі новы школьны год — новыя клопаты, новыя задачы. Якім ён будзе для драмгуртка, сказаць цяжка, але адно вядома, што кінутае зерне прыгожа закаласілася, дало добры ўраджай. З нашага боку застаецца шчыра пажадаць, каб і глеба наступаючага школьнага года не ляжала адлогам. Зерне ж для пасеву падрыхтавана.

Міхась Шаховіч
Фота аўтара


*Кадр з „Не верце цішыні" І. Шамякіна, пастаўленай самадзейнікамі Бельскага белліцэя.*

М. ШАХОВІЧ

З НАРОДНЫХ ГАВОРАК




Страхі, прывіды, розныя звязаныя з імі легенды былі неразлучнымі спадарожнікамі чалавечага жыцця. Пасяляліся ў ім не толькі русалкі, мары, чэрці ці іншыя істоты, якім чалавек сваёй фантазіяй надаў пэўны акрэслены выгляд, можна сказаць, стварыў выразную постаць, але і розныя істоты, не маючыя свайго акрэсленага выгляду, сваёй матэрыі, якія складаюцца толькі з дэманічнага духу. Чалавек сам, не ведаючы, як іх назваць, прыпісваў усё злой сіле. Гэта выразна выплывае з легенд, расказаў. Усе яны створаны з пункту гледжання абвінавачвання гэтай сілы, з якой чалавек найчасцей спалучае чорта. Выплывае гэта, несумненна, з таго, што чорт быў служакам Люцыпара — супрацьлеглай да бога сілы. Усе прывіды, увесь страх, якім насычаны розныя створаныя народам расказы, звязаныя ці з вісельнікам, ці з утопленікам, ці з чарадзеем. Адным словам, паяўляліся яны на фоне супрацоўніцтва з чортам.

У кожнай вёсцы ёсць такія мясціны, дзе страшыла, мясціны, вакол якіх узнікалі легенды. Калі б пачаць дашукоўвацца крыніцы гэтага, дык, несумненна, дайшлі б да таго, што ў гэтым месцы было некалі забойства, або самагубства, або знаходзіцца нейкі закапаны скарб, які ахоўваецца рознымі страхамі. Сёння гэта ўжо ўспамін, успамін, які нават выклікае смех. Часта на пытанне, ці цяпер тут страшыць, або ці бачыў хто цяпер чорта, у розных мясцовасцях пачуецца адназначны адказ: „А дэ ж тэпэрэшнім людям чорт покажэцця, як воны самі страшніэйшы од ёго".

Як правіла, было тое, што страшыла, пераважна ноччу. Чалавек звяртаў увагу на найменшы аганёк, на краканне вароны, на дзіўны скрып дрэва, на розныя старыя мосцікі. Усяму даваў сваю інтэрпрэтацыю. Прыкладна, кожны агеньчык, які заблішчыць недзе на лузе ці полі, быў спалучаны са скарбам. У ваколіцах Бельска кружыць пераканамне, што быццам бы гэта чэрці перасушваюць золата. Хопіць толькі кінуць туды чаравікам, і адразу напоўніцца ён залатымі манетамі. Бытавала таксама перасцярога перад купаннем. Нельга было купацца пасля захаду сонца. Гэта звязваецца з утопленікамі. Згодна з перакананнем мясцовых людзей, пасля заходу сонца выплываюць яны з рачных тоняў і ловяць ды топяць тых, хто купаецца. У ваколіцах Сакоў, што на Бельшчыне, утопленіка ўяўлялі як старога з зялёнай барадой ды валасамі і доўгімі пазурамі дзеда.

Страхам надавалі людзі розныя постаці. Паяўляліся яны ў выглядзе дзяўчыны, іншы раз прыбіралі постаць каровы або быка. Як ужо ўпаміналася, былі пастаянныя месцы, у якіх страшыла. Прыкладна, паміж Сакамі і Зубавам, непадалёк ад дарогі, ляжыць велізарны камень. Заўсёды ноччу паяўлялася на ім пані і курыла папяросу, з якой іскры вялікімі клубамі ляцелі на дарогу. Днём, калі нехта ехаў гэтай дарогаю, абавязкова ў гэтым месцы спатыкала яго нейкае няшчасце, або нешта зломіцца ў возе, ці ўпадзе ён, калі едзе веласіпедам.

Страхаў нельга было чапаць і адначасова не трэба было ўступаць ім дарогу. Хапіла б толькі крышку збочыць, і завядуць яны невядома куды.

— То калісь з нашымі мамою было так, — гаворыць адна з інфарматарак. — Ішлі воны з Ганною з міеста. Аж бачат, просто на іх два быкі літіт. Аж дым з ноздрув ідэ. І просто на іх. Воны догадаліся і твэрдо ідут, пэрэжыгнав-

Працяг на стар. 4

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

# SKALDOWIE

Заказвала Аліна Юзвюк з Пасечнік Малых.

ПЫТАННЕ: Бацька завяшчаннем запісаў усю гаспадарку сыну, а дачку ў завяшчанні абмінуў. Дачка пры жыцці бацькі выйшла замуж, атрымала пасаг і мае сваю гаспадарку. Ці можа яна патрабаваць часткі бацькаўшчыны?

АДКАЗ: Дзецям, якія ў завяшчанні не запісаны наследнікамі, належыцца, калі яны непаўналетнія або няздольныя да працы, дзве трэція ўдзелу, які ім прыпаў бы, калі б завяшчання не было і яны наследвалі на аснове закону. Калі яны паўналетнія і здольныя да працы, ім прыслугоўвае палавіна гэткага ўдзелу.

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

Калі бацька пры жыцці падараваў гэткаму дзіцяці нейкую маёмасць, а гэткім падарункам з'яўляецца атрыманне пасагу, гэта дараванне залічаецца на належны яму ўдзел. У нашым прыкладзе, калі дачка здольная да працы, ёй прыпадала б палова належнага ўдзелу, які б яна атрымала, калі б завяшчання не было, г.зн. адна чацвертая частка ўсёй спадчыны. Аднак да вартасці спадчыны трэба было б далічыць вартасць пасагу і суму падзяліць на чатыры. Калі б доля аказалася меншай ад пасагу або роўнай, то дачцы нічога не належалася б. Калі б вартасць пасагу была меншай, чым гэтая доля, то дачка павінна атрымаць належную ёй розніцу. У ніякім выпадку яна не можа патрабаваць часткі гаспадаркі. Належыцца ёй грашовая сплата.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Прыснілася мне, што ў маёй кватэры паявілася мыш. Я яе хацеў прыціснуць дзвярыма і задушыць. Калі прыціснуў, пачуў, што яна смяецца голасам маёй жонкі, і я яе пакінуў жывой. Але невядома адкуль прыбег сабака і загрыз мыш.

Барыс

Дарагі Астроне! Перапрашаю за памылкі, але хачу напісаць свой сон. Быццам я ў сваёй хаце сплю, а на другім ложку спіць мая памершая суседка. Потым устала, выйшла са сваёй хаты і пайшла за калітку на вуліцу. На гэтым я прачнулася. Што абазначае гэты сон?

Галена з Белавежы

**Барыс!** Твой сон вельмі цікавы. Мыш заўсёды сведчыць аб тым, што ў чалавека ёсць нейкі скрыты вораг. Глядзі, ці гэта часам не твая жонка, бо калі ты прыціснуў мыш, то засмялася яна голасам тваёй жонкі. Ты пакінуў яе жывой, і гэта магло б прадвяшчаць тое, што твой скрыты вораг будзе святкаваць перамогу. Але невядома адкуль прыбег сабака і загрыз тую мыш, значыць, знойдзецца ў цябе нейкі верны прыяцель, на якога ты заўсёды можаш разлічваць, і дапаможа табе вызваліцца ад гэтага скрытага ворага. Бадай не была б гэтым ворагам твая жонка...

**Галена з Белавежы!** Сніць пакойніцу добра. Абазначае гэты сон здароўе і даўгавечча.

Астрон

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, пішу я да цябе першы раз і не аб каханні, як большасць пішучых, ды і не аб сваіх справах, а пра суседзяў маіх, як гэта яны адносяцца да сваіх старых бацькоў. Тым больш мяне гэта справа трывожыць, што я асталася з малых год сіратой і ведаю, як цяжка быць без бацькоў. А калі выйшла замуж, мы жылі разам з цесцямі. Нам было добра, разам працавалі на гаспадарцы, разам выхоўвалі мае чацвёра дзяцей. Як шкада, што яны ўжо не жывуць. А вось у суседзяў жывуць маці і бацька, яны ўжо старэнькія. Аднаму і другому больш сямідзесяці. Колькі ж яны ўлажылі працы ў гэтую гаспадарку! Маладая гаспадыня ў поле пойдзе, а траіх малышоў цёшча пільнуе, ды і свіней, і курэй і ўсё іншае яшчэ дагляне. Яна і цяпер яшчэ вечна круціцца на панадворку, а і дзядуля таксама. Ну, вядома, не так ужо спраўна. І чуюцца лаянкі на іх ад сына і сыновай, ды яшчэ і ўнукі, гледзячы на сваіх бацькоў, у словах не перабіраюць. Жывуць яны ў асобным пакойчыку, але з кухні адной карыстаюцца. І часта галодныя бываюць. Не раз я чула, як сыновая дакарае, што да работы, дык іх няма, а да міскі дык яны скорыя. Час ад часу цішком праз плот я ім сёе-тое з яды падам. А калі зімою на грып абое захварэлі, у халодным пакоі ляжалі, пакуль дзедка, крыху ачуняўшы, змог дроў прынесці ды ў печы напаліць. А бабуля то аж у бальніцу трапіла. І там яе ніхто з сям'і не наведаў. Надрукуй, Сэрцайка, маё пісьмо. Можа гэтая „Ніва" і ім, маім суседзям, у рукі трапіць, хай пачытаюць пра сябе. А і іншыя, што падобна паступаюць, бо ж напэўна не адзіны гэта выпадак, мо задумаюцца над сваімі адносінамі да сваіх старых бацькоў.

Суседка

Так, сумная гэта справа і напэўна не выключная. Такое здараецца, на жаль, нярэдка. Дзеці дарослыя не шануюць сваіх бацькоў. Ад іх вымагаюць як найбольшай працы, нягледзячы, што ўжо сілы іх апускаюць і старасць гне да зямлі. А такі абяссілены чалавек сам патрабуе апекі, патрабуе ласкі і чуллівасці. І гэта за іх вялікі труд, які паклалі ў выхаванне сваіх дзяцей, ды і ўнукаў, павінны тыя ж дзеці і ўнукі ім запэўніць. Але, вядома, падрастаючыя ўнукі вучацца ад сваіх бацькоў і так, як яны, адносяцца да бабулі і дзядулі. Шкада толькі, што маладыя і здаровыя людзі не думаюць, што і яны будуць калісьці старымі і нядужымі, будуць таксама чакаць дапамогі ад сваіх дзяцей. Дарэмна аднак. Нашы дзеці адплацяць нам тым, чым мы бацькам сваім. Памятайма аб гэтым!

Сэрцайка

Куток практычных ведаў

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК і З'ЯСІ

# ЕШЦЕ СЭЛЕРЫ!

### САЛАТ З СЭЛЕРА

На 1 сэлер узяць два яблыкі, сок з аднаго лімона, некалькі пасечаных грэцкіх арэхаў, соль і цукар па смаку, лісткі салаты, 5 дэкаў галандскага сыра.

Абабраны сэлер сцерці на бурачанай тарцы, адразу паліўшы лімонным сокам. Абабраныя яблыкі нарэзаць тоненькімі слупкамі, вымяшаць з сэлерам і пасечанымі арэхамі, дадаць соль і цукар па смаку, палажыць на лісткі салаты, пасыпаць дробнымі костачкамі галандскага сыра.

### ЯЕЧКІ З СЭЛЕРАМ

На 1 абабраны і звараны сэлер (толькі, каб не пераварыць!) узяць 5 яечак. соль, перац, 5 лыжак халоднага вывару з сэлера, крыху лімоннага соку, поўную лыжку масла ці маргарыну, зялёную пятрушку.

Сэлер, зварыўшы, асушыць, нарэзаць косткай і адразу спырснуць лімонным сокам. Яечкі выбіць у міску, дадаць вывар з сэлера, соль, перац, вымяшаць. На вялікай патэльні разагрэць масла, уліць яечкі, дадаць сэлер і, памешваючы, падсмажыць. Падаючы пасыпаць зялёнай пятрушкай.

### ПУДЗІНГ З СЭЛЕРА

На 2 вялікія сэлеры (каля 40 дэкаў) трэба ўзяць 3 жаўткі, 1 цэлае яечка, паўшклянкі смятанкі, 1 цэлае яечка, зялёную пятрушку, масла і цёртую булку.

Абабраныя сэлеры зварыць у пасоленай вадзе, працерці праз сіта. Дадаць жаўткі, цэлае яечка, смятанку, соль і перац. Усё вымяшаць, а пасля палажыць у формачку, для пудзінгаў, змазаную маслам і пасыпаную цёртай булкай. Формачку закрыць і падвесіць у каструлі з гарачай вадой. Ад часу, калі вада закіпіць, варыць на невялікім агні гадзіну. Трэба памятаць, што формачку для пудзінгаў можна напаўняць толькі да 2/3 вышыні. Астудзіўшы крыху пудзінг, выняць яго на талерку. Падаваць з зялёнай салатай і вострым таматным соусам, а таксама рысам ці макаронам.

Гаспадыня

ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

ЮЛІУС МАДЭР

## СКАРБ „ЧОРНАГА ОРДЭНА"

### КУДЫ ЎЦЯКЛО ЗОЛАТА

Сляды ўжо губляюцца. Але хоць за два дзесяцігоддзі злачынцам і ўдалося знішчыць многія доказы, поўнасцю замесці сляды немагчыма. Занадта ўжо вялізны схаваны нацысцкі скарб.

10 жніўня 1944 г. на нарадзе ў Страсбургу прадстаўнікі германскага манапалістычнага капіталу і нацысцкай верхавінкі прынялі рашэнні: надзейна схаваць нарабаваныя гітлераўскай Германіяй каштоўнасці; фінансаваць пасля вайны германскія манаполіі; працягваць на замаскіраваных прадпрыемствах выраб зброі; забяспечыць у пасляваенны перыяд грашыма нацысцкія падпольныя арганізацыі, уладкаваць уплывовых, але менш вядомых грамадскасці нацыстаў у якасці „экспертаў" і „спецыялістаў" у розныя канцэрны.

Цяпер, больш чым праз 20 гадоў, можна супаставіць сфармуляваныя вышэй мэты з заходнегерманскай рэчаіснасцю. Нават увесь бляск ультрасучасных аўтамабіляў і ганарыстая раскоша фешэнебельных віл і палацаў сённяшняй фінансавай алігархіі не даюць аб ёй поўнага ўяўлення. Аналіз, які ўскрывае сутнасць з'яў і іх узаемасувязь, прыводзіць да неаспрэчнага вываду: дзяржаўна-манапалістычная сістэма бонскай дзяржавы — наследніца гітлераўскага рэжыму. Рашэнні, што прыняты ў Страсбургу, далі свой небяспечны плён!

Ну, а калі бонская дзяржава стала наследніцай гітлераўскага рэйха, яна жадае атрымаць нарабаваныя нацыстамі каштоўнасці, што належаць ёй па завяшчанню, каб дапамагчы сілам карычневага мінулага!

У 1945 годзе, к канцу вайны, у руках нямногіх гітлераўцаў, якія мелі дачыненні да тайны, апынуліся казачныя багацці, нарабаваныя нацысцкімі разбойнікамі. Гэтыя незлічоныя багацці прайшлі праз цэлы канспірацыйны ланцуг немцаў і іншаземцаў, якія павінны былі забяспечыць транспарціроўку іх за граніцу ці надзейна схаваць.

Частка нацысцкіх багаццяў была змешчана ў сталёвыя камеры, металічныя касеты і сейфы, другая — закапана ў зямлю, схавана ў лясах, спушчана на дно невялікіх горных азёр. Валюта пераходзіла з рук у рукі, пералічвалася на бягучыя рахункі фіктыўных асоб. Але кола змоўшчыкаў — уладальнікаў гэтых каштоўнасцей — заставалася ўсё тым жа. Часам яны, праўда, гублялі дакладнае ўяўленне аб лёсе частак свайго багацця і месцазнаходжанні давераных асоб.

Так ці інакш, але завадатай эсэсаўскіх агентаў Хётль-Хаген, які знаходзіцца цяпер на службе Бона, выданнем кнігі „Аперацыя „Бернхард" у патрэбны момант даў сваім саўдзельнікам загад, які быў размножан на нямецкай, французскай, італьянскай, фінскай і англійскай мовах. Хётль выкарыстаў сваю кнігу для таго, каб у завуаліраванай форме запатрабаваць ад некаторых нядбайных саўдзельнікаў, якім у канцы вайны была даверана асабістая „апека" над той ці іншай часткай бандыцкіх скарбаў, вярнуць, нарэшце, нарабаваныя каштоўнасці ў бонскую казну і зрабіць справаздачу ў іх. Гэта было зроблена ў выглядзе папроку аднаму з былых фашысцкіх агентаў: маўляў, калі ён выйшаў з цяжкага становішча пасля вайны, „узнікае прававое пытанне", ці не павінен ён, „уласна кажучы, зрабіць справаздачу федэральнаму міністэрству фінансаў ці, скажам, наваствораной тым часам палітычнай сакрэтнай службе Федэральнай Рэспублікі Германіі (маецца на ўвазе „федэральная разведвальная служба" на чале з былым гітлераўскім генералам Геленам, які з'яўляецца цяпер таксама і начальнікам Хётля. — Ю.М.) Гутарка ж ідзе як-ніяк аб некалькіх сотнях тысяч фунтаў стэрлінгаў".

Намёк быў недвухсэнсоўны.

Праўда, тое, што нацыстам давялося занесці ў графу „страты", павінна было фігураваць у графе „прыход" у абодвух заходніх саюзнікаў — ЗША і Англіі, стаўшы іх трафеем. Існуе ж спецыяльна створаны ўрадамі ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі яшчэ ў студзені 1946 г. міжсаюзніцкі орган па рэпарацыях і вяртанню захопленага золата. Гэта так званая трохбаковая камісія па вяртанню залатых грашовых знакаў. У Парыжскім пагадненні ад 14 студзеня 1946 г., другая частка якога прысвечана пытанню звароту захопленага золата яго законным уладальнікам, гаворыцца, у прыватнасці, што ўрады Злучаных Штатаў Амерыкі, Францыі і Вялікабрытаніі прымуць у адпаведна акупіраваных імі зонах Германіі ўсе неабходныя для таго меры.

Камісія гэта магла б кампетэнтна выказацца наконт таго, дзе ж знаходзяцца багацці, нарабаваныя нацыстамі ў многіх еўрапейскіх народаў. Хоць народы маюць права патрабаваць ад яе справаздачы, камісія да гэтага часу адмоўчваецца. Толькі ў 1946 г. прадстаўнікі французскага ўрада ў гэтай камісіі на пытанне аб месцазнаходжанні і колькасці захопленага гітлераўцамі золата адказалі, што ў акупіраванай Германіі, у Швейцарыі і Швецыі выяўлена, паводле прыблізнай ацэнкі, 277 тысяч кілаграмаў золата.

*(Працяг будзе)*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## АБ ЧАРОМХАЎСКІМ СПОРЦЕ

На апошняй чэрвеньскай сесіі гмінnай рады была разгледжана праграма развіцця турызму і спорту ў гадах 1978-1980. Як сцвярджаецца ў праграме, да гэтай пары развіццё фізкультуры на тэрыторыі Чаромхаўскай гміны ацэньваецца на „пасрэдна". Галоўную дзейнасць вядзе тут спартыўны клуб „Калеяж", які згуртоўвае 55 членаў. Арганізаваўся ён у гэтым годзе. Апрача таго, спорт разгортваецца ў двух гуртках ЛЗС, школьным спартыўным гуртку і ў сямі гуртках Лігі абароны краіны, у якіх дзейнічае 146 членаў.

Члены клуба „Калеяж" праводзяць навучанне ў трох дысцыплінах спорту: футболе, валейболе і баскетболе. Трэніроўка адбываецца пад кіраўніцтвам двух трэнераў і трох арбітраў (двух у футбольнай камандзе і адзін у настольным тэнісе). Аднак гэтая колькасць спартыўных кадраў не забяспечвае патрэб чаромхаўскіх спартсменаў. Таму ў праграме прадбачваецца падрыхтоўка большай колькасці інструктараў і грамадскіх арганізатараў спорту.

Гурткі ЛЗСу існуюць у дзвюх вёсках: Кузаве і вёсцы Чаромсе. Ёсць тут 45 членаў, якія займаюцца толькі футболам, таму дзейнасць іх не прынесла дагэтуль вялікіх эфектаў на спартыўнай ніве. Гмінная рада ЛЗС прадбачвае стварэнне да 1980 года новых гурткоў: у Вульцы Тэрахоўскай і Ставішчах, з адначасовым павелічэннем колькасці членаў у існуючых арганізацыях. Мяркуецца таксама ў кожным годзе правесці ў сярэднім падрыхтоўку 10 інструктараў і арганізатараў спорту, а таксама суддзяў. Спартыўны клуб „Калеяж" будзе развіваць сваю дзейнасць у галіне фізкультуры сярод работнікаў на прадпрыемствах. Асноўнай мэтай яго працы будзе распаўсюджванне і папулярызацыя масавых кампаній, такіх, як спорт у сям'і, спаборніцтва паміж чыгуначнымі прадпрыемствамі, алімпіяды рабочай моладзі, тыдзень фізкультуры і г.д.

Вышэй паказаныя мерапрыемствы клуб будзе рэалізаваць супольна з актывам чыгуначных прадпрыемстваў, маладзёжнымі і грамадска-палітычнымі арганізацыямі, існуючымі на тэрыторыі гміны. Адным з асноўных недахопаў развіцця чаромхаўскага спорту з'яўляецца недастача адпаведнай базы для трэніровак па лёгкай атлетыцы, футболу і валейболу. Гмінная праграма развіцця спорту і фізкультуры прадбачвае па меры магчымасці арганізаваць да 1980 г. спартыўна-турыстычную базу на 50 месц, басейн і спартыўную пляцоўку. Кошт пабудовы такога мерапрыемства ацэньваецца на суму 4 мільёнаў злотых. Чыгуначныя прадпрыемствы, у якіх рабочы калектыў перавышае 200 рабочых, павінны арганізаваць звенні ТККФ, гурткі ПТТК і ЛОК, а на прадпрыемствах з 500-асабовым калектывам стварыць фізкультурны завадскі савет з інструктарам. Апрацаваная праграма прадугледжвае ў асноўным усе фактары, патрэбныя для развіцця спорту, фізкультуры і турызму ў нашай гміне. Спадзяюся, што не абыдзецца і тут (як і ў кожнай праграме) без нейкіх няўдач. Аднак усе гэтыя цяжкасці зможа пераадолець дружны чыгуначны калектыў.

**Ул. Сідарук**

### СВІНАФЕРМА Ў КРАСНЯНАХ

У вёсцы Красняны каля Саколкі будуецца найбольшая ў Беластоцкім ваяводстве свінаферма, якая належыць сельгасгуртку. За адзін раз тут будзе адкормлівацца 3600 кормнікаў і 600 матак. Па плану ў год будзе гадавацца 8 тысяч кормнікаў. Гадоўля будзе праходзіць у замкнутым цыкле, гэта значыць, што парасяты будуць свае.

Ферма будзе мець чатыры тучарні, тры будынкі для матак, сушыльню з мяшальняй кармоў. Цэлы аб'ект будзе пабудаваны ў 1980 годзе, будзе гэта самы сучасны гадаўляны комплекс у нашым раёне. **(г)**

## НАРАКАЮЦЬ

Жыхары вёскі Вітава, Дубіцкай гміны, наракаюць на кляшчэлеўскі ГС за тое, што ў іх краме ў Вітаве рэдка бываюць піва, ліманад, фруктон, хаця прадаўшчыца кожны раз робіць заказ на іх і часта звоніць з мясцовага тэлефону, аднак часта надарэмна. У іншыя крамы напіткі гэтыя прывозяць рэгулярна, а сюды як папала. Гэта становішча абавязкова трэба змяніць.

**П. Д.**

## БЕЗ НУМАРОЎ

Ёсць такія вёскі, дзе дамы (пераважна новыя) стаяць без нумароў. Гэта дрэнна, бо зрабіць нумар не вялікая працэдура. А нумар патрэбны, бо пісьмы, розныя дзяржаўныя паперы і пасылкі панумараваныя ў асноўным па адрасу дома і, калі бракуе нумара на сцяне дома, то хто б гэта не быў: пісьманосец, міліцыянер ці іншы незнаёмы чалавек, заўсёды траціць час, пакуль знойдзе адрасата.

**Мікалай Панфілюк**




**Аўтар вершаў, якія змяшчаем ніжэй, родам з Беласточчыны. У міжваенны перыяд быў вымушаны эмігрыраваць ў Аргенціну ў пошуках працы і хлеба. Там далёка ад роднага краю сумаваў па ім страшэнна. Свае настроі і думкі запісваў у вершах. Цяпер аўтар пражывае ў горадзе Ташкенце. З'яўляецца пастаянным нашым чытачом.**

### СЕЛЯНІНАМ Я БЫЎ

Я і думаць не мог,
Што пайду за парог,
Буду далёка за морам бадзяцца.
Селянінам я быў,
Край свой шчэра любіў —
Цяжка было з ім расстацца.

Але ў краю сваім,
Я быў ўсюды чужым,
Бо перад панам я мусіў гнуцца.
Я ўцякаў ад бяды
І вось трапіў туды,
Дзе ліяны на сельве плятуцца.

Там народ гараваў
І жыццё праклінаў,
Усім цяжка было, трэба прызнацца.
Лепей ў родным краю
Аддаць сілу сваю
І на радзіме за волю змагацца.

### БОЛЬ МАЙГО СЭРЦА

*Хачу перадаць я вам думы свае*
*І боль майго сэрца па старане,*
*Дзе я радзіўся і дзе быў пастушком*
*І скуль на чужыну падаўся з мяшком.*

*Я думаў, што шчасце дзе-небудзь знайду*
*Калі ў Аргенціну за моры пайду.*
*І не спадзяваўся я там сумаваць,*
*Бо цяжка было мне ў краю гараваць.*

*Але ў маім сэрцы каханне цвіло*
*Да роднага краю, народа свайго,*
*Да вёскі радзімай, да ніў і лясоў.*
*Я кожну хвіліну вярнуцца гатоў*

*Да родных палеткаў, дзе жыта расце,*
*Дзе побач з валошкай бярозка цвіце.*
*Памру, на магіле у летні дзянёк*
*Любімыя краскі саўюць мне вянок.*

*Як светлыя зорачкі, думы мігцяць,*
*Імкнуцца далёка, за моры ляцяць.*
*Праз шыр акіянаў не маю сіл плыць,*
*На мілай старонцы хацеў бы я жыць.*

### МАЛАДЫМ

Гадуйцеся, расціце, дзеткі,
Вы нашай будучыні кветкі!
У школе знанне здабывайце,
Дарогу ў жыццё выбірайце.
Вас жджэ рамантыка кругом
І космас вам — як родны дом!
За ваша шчасце продкі дбалі
Што сёння помнікамі сталі,
Як Пушкін, Ленін і другія —
На векі помнікі жывыя!

**Валошка**




### ПІСЬМО ДЗЯДЗЬКУ КВАСУ

Паважаны Дзядзька Квас! Знаёмы я з вамі як чытач „Нівы" ўжо даўно, як толькі вы пачалі змяшчаць на старонках „Нівы" свае вершы. Па праўдзе сказаць, лічыў я вас нармальным вершаклетам, нават і не таленавітым. Які ж „выразалі" вам у „Ніве" „Палоску", я па ёй перабягаў вачыма па колькі разоў і ацаніў вас, як чалавека з велькім дарам выказвання сваіх думак. А парушылі вы на „Палосцы" вельмі важную і патрэбную справу: творчасць паэтаў сучаснага вершаскладання, для нас, старэйшага пакалення, дзікую, абсурдальную. Шкада толькі, што некаторых гэтых паэтаў прабуеце гладзіць па галоўцы. Вялікі рускі паэт часоў рэвалюцыі С. Ясенін у хвіліну нервовага растрою меў адвагу напісаць: „Я не поэт.И без меня довольно дряни". Нашыя ж паэты патрапяць пісаць: „Я — Пушкін!" Дык гэта вялікае святакрадства. Гэта абраза памяці найбольшага паэта ўсіх часоў. Яго маленькі вершык „Анчар" цаннейшы за ўсю творчасць вышэй цытаванага паэта.

Паважаны Дзядзька Квас! У 31 нумары „Нівы" на сваёй „Палосцы" вы пішаце: „Найхутчэй я адзін з неадукаванага асяроддзя выказаў такія думкі". Вы адзін мелі адвагу кінуць вялікі камень у варткі ўжо нурт сучаснай паэзіі. Гэты камень, кінуты вамі, не затрымае гэтага нурту, але ў некаторай меры страсяне цэнным для нас Беларускім Парнасам, а гэта важна.

Вы не адзін! Вы маеце аднадумцаў у кіраўніцтве рэдакцыі, якая друкуе вашы выказванні. Вы маеце аднадумцаў у большасці чытачоў „Нівы". І вы на добрай дарозе.

Яшбуршчына, калі ўзнікненне гэтага напрамку ў паэзіі прыпісваць Я. Буршу, ёсць чымсьці, як абстракцыянізм у мастацтве. Для шырокіх мас яно праціўна. Так, як праціўны нам доўгія валасы і бароды ў юнакоў.

„Искусство, — гаварыў У. І. Ленін, — принадлежит народу. Оно должно уходить своими глубочайшими корнями в самую толщу широких трудящихся масс. Оно должно быть понятно этим массам и любимо ими".

Зычу вам, дарагі Дзядзька Квас, добрага здароўя і доўгага жыцця і творчай працы на славу народу. Вы мяне моцна падтрымалі на духу. Значыць, не адзін я не разумею гэтай сучаснай творчасці. Будзьце здаровы!

**Дзед Кастусь.**



## НА ЭКСКУРСІІ

Лета — пара года, калі шматлікія прадпрыемствы і ўстановы арганізуюць для сваіх працаўнікоў экскурсіі. Не адстае ў гэтым і Белавежскі нацыянальны парк. Па ініцыятыве прафсаюзнай рады наладжана была ў ліпені тыднёвая экскурсія па паўднёвай частцы Польшчы. Прыняло ўдзел 32 асобы. Наведалі яны канцлагеры ў Майданку і Асвенціме, замак у Ланцуце, Пенінскі і Айцоўскі нацыянальныя паркі, Кракаў, капальню солі ў Вялічцы, манастыр на Яснай Гуры ў Чэнстахове.

Экскурсія, нягледзячы на капрызную пагоду ў той час, была надзвычай удалая. Сярод экскурсантаў панаваў добры настрой, нават у час дажджу, у момант лодачнага паходу Дунайцам.

Тэкст і фота **П. Байко**

## Скончылася бяда— будзе свая вада

Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Шудзялаве вядзе вялікую гадоўлю авечак у вёсцы Гураны. Тут пабудавалі два хлявы-аўчарнікі, у якіх гадуюць больш як 2 тысячы мерыносаў.

Некалькі гадоў таму назад гадоўцы авечак не мелі вады для іх. Ваду бралі з лугоў і рэчак і вазілі бочкавазамі. Зімой была яшчэ горшая бяда. Лугі замярзалі. Тады трэба было шукаць гаспадара, у калодзежы якога было многа вады, каб дазволіў браць яе. Ды вось бяда закончылася.

Ваяводскае прадпрыемства забеспячэння вёскі вадою выкапала каля аўчарнікаў глыбінны калодзеж. Цяпер вада на месцы.

Калі пабудавалі гэты калодзеж, можна было правесці ваду гаспадарам вёскі Гураны проста ў хату. Не зрабілі гэтага, бо ў вёсцы знайшлося мала ахвотных...

**Гіль**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „УСЕ БАЧАЦЬ", „Ніва" № 30/1169 ад 23 ліпеня 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W DUBICZACH CERKIEWNYCH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Wszyscy widzą" z 30/1169 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 23 lipca 1978 roku dotyczącą niezdolnego do pracy Ob. Włodzimierza Rybaka ze wsi Tofiłowce informuję, iż wyżej wymieniony jest inwalidą II grupy i pozostaje na utrzymaniu rodziców, którzy otrzymują rentę za przekazane grunty w wysokości 1300 zł miesięcznie. Obwodowa Komisja Lekarska do spraw Inwalidztwa i Zatrudnienia orzekła, że inwalidztwo powstało po 16 roku życia i w związku z tym rodzicom nie przysługuje dodatek pieniężny w kwocie 500 zł na dziecko kalekie. Rozporządzenie MZiOS z dnia 29.01.1968 roku w sprawie pomocy społecznej w formie świadczeń pieniężnych również głosi, że nie może być przyznany stały zasiłek pieniężny wówczas, jeżeli jeden z członków rodziny pobiera rentę lub emeryturę. Mimo tego Zarząd Gminny PKPS w Dubiczach Cerkiewnych każdego roku przyznaje zasiłek jednorazowy z funduszy PKPS lub zasiłek okresowy z budżetu gminy.

Nieprawdą jest, iż rodzice zgłaszali się do Urzędu Gminy z prośbą o umieszczenie swego syna w zakładzie zamkniętym. Na dowód tego może posłużyć odmowa rodziców. Jednocześnie informuję, iż w latach 1965 i 1966 inwalida przebywał na leczeniu w szpitalu w Choroszczy i właśnie na prośbę rodziców został wypisany, ponieważ nie wyrazili oni zgody na jego stały pobyt w tym zakładzie.

W chwili obecnej na wniosek Poradni Zdrowia Psychicznego w Hajnówce Ob. Rybak Włodzimierz został umieszczony w Szpitalu dla Psychicznie Chorych w Choroszczy.

Sekretarz Biura
**Bazyl Laszkiewicz**

**Да заметкі „АБДЗЕРТЫ ЛОЗУНГ", „Ніва" 30/1169 ад 23 ліпеня 1978 года.**

**Адказвае: PKP STACJA KOLEI PAŃSTWOWYCH W HAJNÓWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 30/1169 numeru tygodnika „Niwa" uprzejmie informuję, że hasło wiszące na wiadukcie faktycznie było podniszczone i wobec tego zostało zdjęte w dniu 3 lipca 1978 roku.

Za powyższe spostrzeżenia składam podziękowanie.

Zawiadowca
**Bazyli Laszuk**

**Да публікацыі „КНЫШЭВІЦКІ БАЛАГАН", „Ніва" № 29/1168 ад 16 ліпеня 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KRYNKACH.**

Na przełomie maja i czerwca bieżącego roku wystąpiła duża podaż jaj i w związku z tym zabrakło skrzynek na skupowane jaja. Obecnie sytuacja na tym odcinku radykalnie się zmieniła i skup jaj prowadzony jest bez zakłóceń. Jak nas zapewnia Dyrekcja Zakładów Jajczarsko-Drobiarskich w Białymstoku, poprawie ulegnie również jakość skrzynek na jaja.

Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Krynkach jednocześnie informuje o tym, że poszukuje większego lokalu na sklep we wsi Knyszewicze i czyni starania o uruchomienie punktu skupu jaj przy sklepie w Babikach.

Wiceprezes d/s Obrotu Rolnego
**Zygmunt Stankiewicz**



 

